# ЗВЯЗДА

26 ЛЮТАГА 1992 г. серада, № 41 (21819)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.


**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:

| | |
|---|---|
| Мінск | — 7.06, 17.40, 10.34; |
| Віцебск | — 6.58, 17.28, 10.30; |
| Магілёў | — 6.55, 17.29, 10.34; |
| Гомель | — 6.50, 17.29, 10.29; |
| Гродна | — 7.21, 17.55, 10.34; |
| Брэст | — 7.19, 17.58, 10.39. |

**МЕСЯЦ:**

Апошняя квадра 25 лютага.

**ІМЯНІНЫ**

Зоі, Святланы, Сцяпана, Сымона, Фаціннí;
Міраслава, Аляксандра

# РОЗГАЛАС

## ВІЦЭ-СТАРШЫНЯ САЦІНТЭРНА Ў БЕЛАРУСІ

Вядомы на Захадзе палітык Ганс-Йохан Фогель, віцэ-старшыня Сацыялістычнага інтэрнацыянала, член бундэстага ФРГ, наведаў Беларусь на чале дэлегацыі нямецкіх дзеячаў. Мэта візіту — азнаямленне з эканамічнай і сацыяльна-палітычнай сітуацыяй у нашай рэспубліцы.

Пан Фогель быў прыняты Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам. Адбылася змястоўная гутарка. У час сустрэчы пана Фогеля з П. Краўчанкам, міністрам замежных спраў Беларусі, былі абмеркаваны пытанні, якія маюць узаемную цікавасць. Напрыклад, праблемы развіцця СНД, ваенная палітыка ўрада рэспублікі.

У размовах з прадстаўнікамі Беларусі пан Фогель адзначыў, што на Захадзе вельмі зацікаўлены ў хутчэйшым знішчэнні ядзернай зброі. А пакуль гэта не зроблена, яна павінна знаходзіцца пад пільным кантролем. Мы вітаем і падтрымліваем імкненне Беларусі быць нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавай, сказаў пан Фогель.

Цікава, што візіт дзеячаў ФРГ ажыццяўляецца па прапанове старшыні Сацінтэрна Вілі Бранта.

Некалькі слоў пра пана Фогеля. Ён па адукацыі юрыст, ужо шмат гадоў займаецца палітыкай, член бундэстага з 1972 года. Ва ўрадзе Бранта займаў пасаду федэральнага міністра гарадскога і жыллёвага будаўніцтва, а ва ўрадзе Шміта — федэральнага міністра юстыцыі. У свой час пан Фогель вылучаўся кандыдатам на пасаду канцлера ФРГ.

**Л. ТУГАРЫН.**

## У ЛОНДАН?.. ТАК!

**Але з веданнем беларускай мовы.**

Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі і Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі фундавалі трохмесячныя стыпендыі — стажыроўкі ў Лонданскім універсітэце для юнакоў і дзяўчат з Беларусі.

Сярод напрамкаў іх заняткаў значацца гуманітарныя навукі, а таксама эканоміка, бізнес, агракультура. Да прэтэндэнтаў прад'яўляюцца такія патрабаванні: мець вышэйшую адукацыю, лідэрскія схільнасці, добра ведаць не толькі англійскую, але і беларускую мовы. Кантроль за падборам кандыдатаў ускладзены на Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, віцэ-прэзідэнт якой доктар Джым Дзінглі выкладае ў Лонданскім універсітэце.

Днямі ў Англіі пабывалі прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Цэнтра імя Францыска Скарыны Адам Мальдзіс і малады беларускі гісторык Генадзь Сагановіч. Яны перадалі Джыму Дзінглі першыя шэсць анкет прэтэндэнтаў, вялі перамовы ў Лонданскім універсітэце, Міністэрстве замежных спраў і Савеце англійскіх рэктараў аб павелічэнні колькасці стажыровак, пашырэнні ўсёй справы на іншыя навучальныя ўстановы Вялікабрытаніі.

Два дні ў Лонданскім універсітэце пад эгідай вядомага мецэната, нашчадка князёў Мсціслаўскіх доктара Анджэя Цеханавецкага працягвалася нарада англійскіх і беларускіх вучоных аб праблемах развіцця беларускай гуманітарнай навукі. У выніку было вырашана на пачатку красавіка правесці ў Мінску міжнародны «круглы стол» па актуальнай і спрэчнай праблеме «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім».

Паездку беларускіх навукоўцаў фінансаваў англійскі бок.

**БелаПАН.**

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(у рублях)**

**на 25 лютага 1992 года**

**ВІЛЬНЮС.** Ялавічына — 90—110, свініна — 90—110, курыца — 80, алей — 80, масла — 120, тварог — 50, смятана — —80, яйкі—20—30, бульба— 5—6, капуста—8, буракі — 6—8, морква — 20—25, цыбуля — 20—25.

**РЫГА.** Ялавічына — 80—120, свініна — 75—150, курыца—80—100, алей—90, масла — 180—200, малако — 15, тварог — 50, смятана — 100—120, яйкі — 15—30, бульба — 9—10, капуста — 3—4, буракі—6—8, морква — 6—8, цыбуля—12—15.

**ТАЛІН.** Свініна — 80—100, масла—170, малако — 15, яйкі 25—30, бульба—15, капуста — 8—10, буракі — 5, морква — 6—8, цыбуля—28—30.

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ.** Ялавічына — 180—200, свініна — 130—200, курыца—350, алей—70, малако — 30, тварог — 50—60, смятана — 130—150, яйкі — 40, бульба — 20—25, капуста —40, буракі—25, морква — 15—20, цыбуля—30.

**МАСКВА.** Ялавічына — 160—200, свініна — 150—200, курыца—200, алей—80, масла—140, малако—20, тварог — 60—70, смятана — 70—80, яйкі—30, бульба — 10—30, капуста—25, буракі—15, морква — 15—20, цыбуля—40.

**МІНСК.** Ялавічына — 100—120, свініна — 70—100, бараніна — 80—90, курыца—180, алей—40, масла—110—120, малако — 5—6, тварог—35—40, смятана — 60—70, яйкі — 13—15, бульба — 8—10, капуста—8, буракі—7, морква — 7—10, цыбуля—12, яблыкі—40—50, мандарыны — 65—70, лімоны —110, курага—110, мёд—200—250.

Курс купона на Камароўскім рынку упаў да 20 капеек за адзін купон.

**Агенцтва РІД.**

## РАЗУМАЎ СУПРАЦЬ РЭФЕРЭНДУМУ

ОРША. Аршанскі стачком на чале са старшынёй Мікалаем Разумавым рашуча выступае супраць правядзення рэферэндуму аб будучым рэспубліканскай улады. У прыватнасці, Разумаў заяўляе, што гэты крок наблізіць сацыяльны выбух сярод насельніцтва і прывядзе да ўзброеных стыхійных выступленняў працоўных. Усю віну за магчымыя вынікі Разумаў ускладае на «тандэм» у асобе КДБ—БНФ. Сёння Мікалай Разумаў прыбудзе ў Мінск, каб данесці свае думкі да народа ў час выступленняў на вуліцах і ў калектывах прадпрыемстваў.

## ПАКЛЯЛІСЯ ТРЫ БРАТЫ...

Ганаровым грамадзянінам горада Пінска ўпершыню стаў медык — загадчык хірургічнага аддзялення гарадской бальніцы, кандыдат медыцынскіх навук Алег Макарэвіч. Прайшоўшая гэтымі днямі сесія гарадскога Савета ўдастоіла свайго земляка такога высокага звання за вялікі ўклад у развіццё аховы здароўя горада. На рахунку таленавітага хірурга сотні складаных аперацый, у тым ліку па сасудзістых захворваннях.

Дарэчы, клятва Гіпакрата для Макарэвічаў стала сямейнай. У свой час усе тры браты скончылі Пінскае медвучылішча, затым розныя інстытуты і аспірантуры. Алег, абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, вярнуўся ў родны горад і вось ужо чвэрць стагоддзя аперыруе хворых; Міхаіл стаў доктарам медыцынскіх навук, прафесарам. Зараз ён узначальвае кафедру паталагаанатоміі Мінскага медінстытута. Доктар медыцынскіх навук Георгій Макарэвіч — загадчык аддзялення Рэспубліканскага навукова-даследчага інстытута неўралогіі.

# Урад—міліцыя: ёсць узаемаразуменне

«Давайце жыць дружна» — такой думкай была прасякнута сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. Кебіча з супрацоўнікамі Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі ў Вышэйшай школе міліцыі. Міністр У. Ягораў паведаміў прысутным, што ўрадам для міліцыі зроблена вельмі шмат. Па-першае, амаль у 2 разы павышаны аклады ўсім супрацоўнікам Міністэрства ўнутраных спраў. Нават дывізія ўнутраных войск, якая перайшла пад юрысдыкцыю Беларусі, не засталася па-за ўвагай Савета Міністраў.

Па-другое, В. Кебіч падпісаў пастанову, у адпаведнасці з якой выдзяляецца 37 мільёнаў рублёў на будаўніцтва жылля для міністэрства. Сам Старшыня Савета Міністраў ацаніў гэтыя мільёны ў перыяд галапіруючай інфляцыі не вельмі высока. Але — «чым можам». Тым больш, што гэтае праяўленне ўвагі ўрада да патрэб МУС адбылося на фоне ўсеагульнага рэспубліканскага эканамічнага спаду — 18 працэнтаў за студзень. Такога, як зазначыў В. Кебіч, у нас яшчэ не было. Беларусь з усіх рэспублік былога Саюза трымалася да апошняга.

Не хапае, вельмі не хапае дысцыпліны на месцах. Таму, на думку В. Кебіча, пытанне рэферэндуму аб даверы Вярхоўнаму Савету некалькі нясвоечасовае. Калі апошні пойдзе ў адстаўку, то і Савет Міністраў павінен будзе зрабіць тое ж. Наступіць натуральнае безуладдзе. Новы Вярхоўны Савет, як лічыць прэм'ер, проста можа быць не ўтвораны з-за вельмі малой палітычнай актыўнасці народных мас.

Сёння прафесіяналы-міліцыянеры — сіла, эфектыўнасць якой павінна ўзрастаць. Некалькі скарацілася злачыннасць па рэспубліцы ў параўнанні з мінулым годам. У цэлым нармальная сітуацыя ў папраўча-працоўных установах, якая да нядаўняга часу была вельмі напружанай. І хоць 31 тысяча злачынстваў застаецца нераскрытай, Закон аб міліцыі, прыняты год назад, усё ж паслужыў значнай падмогай у барацьбе са злачыннасцю і пры навядзенні парадку на месцах.

Цяпер вельмі неабходна, і з гэтым пагадзіўся В. Кебіч, прыняцце Закона аб пажарнай ахове. Быць староннімі назіральнікамі, калі гарыць наша дабро і гінуць людзі, недапушчальна. Пакуль страты ад пажараў больш чым унушальныя — 1 мільярд рублёў і 1.500 ахвяр за год. І ў той жа час нават існуючыя структуры пажарнай аховы пачынаюць павольна, але пэўна разбурацца.

Актуальнае цяпер пытанне як для МУС, так і для ўрада рэспублікі — замена старой міліцэйскай формы і набыццё новай. В. Кебіч запэўніў, што пытанне прапрацоўваецца і будзе вырашацца. Але не адным захадам. У Малдове, напрыклад, міліцыянеры носяць паралельна ўжо як агульнапрынятую, так і сваю міліцэйскую форму.

На пытанне аб аднаўленні добраахвотных народных дружын прэм'ер адказаў, што гэта абсалютна безнадзейная і бесперспектыўная справа. Лепш павялічыць штат МУС. Гэта ж будуць прафесіяналы.

У канцы ж сустрэчы В. Кебіч паведаміў, што пяць дзён яго сустрэч з людзьмі ў розных кутках Беларусі ўнушаюць пэўны аптымізм у правільнасці крокаў урада па пераадоленню цяжкага эканамічнага крызісу. У заключэнне прэм'ер дадаў, што закупак узбраенняў рэспубліка ў гэтым годзе рабіць не будзе.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# Рэспектабельны «ЛіМ»

**60 гадоў назад, 26 лютага 1932 года, выйшаў першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва». У час вайны не выходзіла, зноў пачала выходзіць з красавіка 1945 года. Спачатку раз, а са студзеня 1957 года — два разы на тыдзень. З красавіка 1970 года — штотыднёвік на 16 старонках. У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў. У канцы 1990 года афіцыяльна зарэгістравана нарэшце ў Дзяржкамдруку РБ. «Юбіляра» прадстаўляе намеснік галоўнага рэдактара Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

**— З якім багажом сустракае рэдакцыя юбілей штотыднёвіка?**

— Што такое 60 гадоў для газеты? Калі для чалавека гэта ўсё жыццё, то газета за гэты час пражывае некалькі жыццяў. Гэта залежыць ад часу, які рэдакцыя адлюстроўвае. Калі мы рыхтавалі юбілейны нумар, яшчэ раз зазірнулі ў старыя падшыўкі і ўбачылі, што ўсе 60 гадоў свайго існавання лімаўцы ішлі ўпоравень з часам. Сёння нешта ўспрымаецца з усмешкай, за нешта нават сорамна і хацелася б, каб гэтага не было. І наша газета раней граміла «нацдэмаў», «касмапалітаў» і іншых ворагаў народа. Але, як кажуць, з песні слова не выкінеш. І ўсё ж такі найбольш плённым перыядам для «ЛіМа» былі апошнія 5—6 гадоў, якімі можна ганарыцца. Я нават прафесіянальна шчаслівы за тое, што працаваў тады ў штотыднёвіку. «Лімаўцы» аказаліся здольнымі ўспрыняць палітычныя падзеі і нават у нейкім сэнсе апярэдзіць іх. Адпаведна змяніўся і ранг газеты. Калі яна стваралася ў асноўным для адлюстравання культурнага жыцця, то з пачаткам так званай перабудовы пачала ахопліваць і грамадска-палітычную галіну.

Можна ганарыцца публікацыямі, якія выклікалі адпаведны рэзананс. Так, дзякуючы Зянону Пазьняку, «ЛіМ» паведаміў аб раскопках у Курапатах. Штотыднёвік адным з першых узняў пытанне аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай і ўвесь комплекс праблем, з ім звязаных. Нашы журналісты вельмі актыўна вялі гаворку аб сімволіцы і станаўленні шматпартыйнасці. Мы лічылі сваім абавязкам адрадзіць і ўкараніць адраджэнскія і дэмакратычныя ідэалы. Але ў той час вельмі мала калег нас падтрымлівала, і на старонкі афіцыяльнага друку вылівалася шмат антылімаўскіх публікацый. Можна сказаць, што за апошнія 6 гадоў «ЛіМ» вымушаны быў ачысціцца за мінулыя грахі і стварыць тую рэспектабельнасць (у лепшым сэнсе гэтага слова), якая нас не падвядзе.

**— Андрэй, «ЛіМ» лічыцца ў нейкім сэнсе элітарным выданнем. Дык на якога чытача вы арыентуецеся?**

— У падзагалоўку нашага выдання стаіць фраза — «Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі». На яе мы ў асноўным і арыентуемся. Але лічым, што творчая інтэлігенцыя — гэта не толькі пісьменнік і мастак. Гэта абавязкова і настаўнік, і навуковы работнік. Калісьці мы праводзілі апытанне метадам надрукаванай прэс-анкеты і заўважылі, што нашы чытачы — гэта людзі з досыць высокім адукацыйным узроўнем, узрост—ад студэнцкага да пенсіённага. Калі меркаваць па тыражу (а ён у нас каля 18 тысяч экземпляраў), то на першы погляд ён здаецца невялікім. Хацелася б, канешне, больш — тысяч 50—80. Аднак радуе іншае. У час падпісной кампаніі ўсе вельмі хвалявaліся, але аказалася, што мы не страцілі ніводнага свайго падпісчыка, нават выявіўся пэўны рост. Гэта сведчыць пра тое, што ёсць ужо сталае кола чытачоў «ЛіМа». Тут крыецца небяспека ў іншым: аўдыторыя варыцца ва ўласным соку. Таму трэба шукаць новыя формы. Наша задача — распаўсюдзіць усё тое, што вядома лімаўскаму чытачу, на кожнага жыхара Беларусі.

**— Зараз у многіх выданняў праблемы з паперай, грашыма, заснавальнікамі, іншыя арганізацыйныя цяжкасці. Як у гэтым сэнсе становішча ў «ЛіМа»?**

— «ЛіМ» жыве такімі ж клопатамі, як і ўвесь астатні друк. Мы на мяжы таго, што сёння-заўтра раптам скончыцца папера. Мы не можам вызначыць сваім супрацоўнікам цвёрдыя аклады, нават падняць іх да ўзроўню пражытачнага мінімуму. Сярод «лімаўцаў» усяго паўтара дзесятка пішучых журналістаў. Адсутнасць уласнай карэспандэнцкай сеткі ў рэспубліцы таксама стварае пэўныя перашкоды. Вялікая праблема з ганарарамі. Я літаральна малюся на нашых аўтараў, якія прыносяць у рэдакцыю свае артыкулы (а гэта часцей за ўсё грунтоўныя навуковыя публікацыі) і ў лепшым выпадку атрымліваюць за вялікую працу памерам на паўтары паласы «ЛіМа» грошай на 3 кілаграмы варанай каўбасы. Гэта ж здзек з інтэлігенцыі. Як паветра патрэбен камп'ютэр, але ён каштуе паўтара мільёна рублёў. Дзе іх узяць?

**— Андрэй, у якім напрамку рэдакцыя будзе працаваць на працягу 1992 года?**

— Не чакайце ніякіх змен у нашым змесце і тэматыцы, бо яны ўжо даўно вызначаны намі. Наша галоўная задача — дапамагчы рэспубліцы набыць рэальны суверэнітэт. «ЛіМ», такім чынам, будзе своеасаблівай інтэлектуальнай падтрымкай станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Вызначыць штотыднёвік сваю пазіцыю і ў час правядзення рэферэндуму. Дарэчы, надышоў час, калі гэта павінна зрабіць кожная газета. «ЛіМ» будзе працягваць адраджэнцкую тэматыку. І яшчэ, канешне, літаратуры і мастацтва Беларусі.

**— Дзякуй. Застаецца пажадаць вам поспехаў. І яшчэ раз з юбілеем.**

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## Жанчына, маці, забойца

**МАЗЫР. 20 лютага ў смеццезборніку інтэрната педінстытута знойдзены труп нованароджанай дзяўчынкі. Аператыўнай групай ГРАУС высветлена, што нарадзіла дзіця і задушыла ў ванным пакоі студэнтка інстытута С. Дададзім, што «маці» 19 гадоў.**

ПАВЕДАМЛЯЕМ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Кавалак з чужога рота

**Ва ўчарашнім нумары «Звязды» была змешчана заметка «Размеркаванне па «кватэрах», дзе паведамлялася пра крадзяжы гуманітарнай дапамогі ў Брагіне, у якіх замешаны мясцовыя медработнікі.**

Брагін у гэтыя дні нагадвае растрывожаны вулей. Усіх хвалюе адно: як людзі ў белых халатах змаглі пакваліцца на тое, што прызначана хворым? І хоць следства пакуль што ў самым разгары, начальнік Брагінскага раённага аддзела ўнутраных спраў падпалкоўнік міліцыі П. П. Ільянок усё ж даў згоду (вядома, у межах магчымага) пракаменціраваць гэтую справу. У прыватнасці, адзначыў, што некаторыя матэрыяльна адказныя і службовыя асобы райбальніцы, злоўжываючы сваім службовым становішчам, укралі немалую частку гуманітарнай дапамогі, якая атрымана з-за рубяжа для дзяцей Брагіншчыны...

Гутарка вялася ў кабінеце Пятра Паўлавіча, і частка рэчавых доказаў знаходзілася тут жа. Справа ляжала тое, што канфіскавана ў адной асобы, злева, прычым у значна большай колькасці, — у другой. Заняты былі яшчэ тры службовыя пакоі работнікаў міліцыі, бо для такой колькасці прадуктаў і медпрэпаратаў у аддзеле не знайшлося складоў.

— Вось бачыце, — кажа Пётр Паўлавіч, падыходзячы да складзеных рэчаў, — чаго тут толькі няма! Дзесяткі скрынак тушонкі імпартнай вытворчасці, банкі з напіткам какавы колькасцю больш за 30 кілаграмаў, каробкі з шакаладнымі цукеркамі, сотні металічных бляшанак з розным дзіцячым харчаваннем: пюрэ, джэмы і іншае... Прадукты такія, якіх асабіста мне, шчыра скажу, раней і бачыць не даводзілася. А вось яшчэ: тысяча аднаразовых шпрыцаў, дзесяткі ўпаковак са стэрыльнымі тампонамі і сотні — з лейкапластырам, бутэлькі са спіртам і рыбіным тлушчам, скрынка дазіметрычных прыбораў, вялікая колькасць вострадэфіцытных медыкаментаў і асабліва — я хачу гэта падкрэсліць — лякарствы, якія зніжаюць уздзеянне радыяцыі на арганізм чалавека.

Начальнік аддзела паказвае чыстыя бланкі пасведчанняў удзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і сотні адпаведных значкоў...

Усё гэта было знойдзена ў ходзе вобыскаў, праведзеных супрацоўнікамі брагінскай міліцыі на кватэрах пэўных асоб у Брагіне і Мінску.

У кабінет заходзяць следчыя, якія вядуць гэтую справу. Разам працягваем разглядаць канфіскаваныя рэчы. Нехта заўважае:

— Звярніце ўвагу на надпіс на ўпакоўках: «Помощь Европейского сообщества для СССР. Мясные консервы, говядина. 1991».

На скрынках, пакетах, розных маляўнічых упакоўках — надпісы на англійскай, нямецкай, італьянскай мовах — гэта толькі тое, што мы змаглі прачытаць. А ўвогуле увесь свет з цеплынёй і шчырасцю паставіўся да людзей, якіх напаткала нечуванае раней на нашай зямлі гора. Толькі свае пакваліліся на святое — на тое, што прызначалася дзецям.

Міліцыя працягвае следства. Справа толькі-толькі раскручваецца, і да суда яшчэ далёка. За тлумачэннямі звяртаюся да У. Ц. Жулегі — пракурора Брагінскага раёна, які, дарэчы, прыехаў сюды нядаўна.

— Што здарылася, Уладзімір Цімафеевіч? — было маё першае пытанне.

Ён адказаў, не вагаючыся:

— Працягваецца трагедыя душы чалавека — крызіс сумлення, людскасці, прыстойнасці. Спекулюючы на цяжкасцях, якія напаткалі нашу краіну, некаторыя несумленныя людзі выкарыстоўваюць сваё службовае становішча ў карыслівых мэтах. Па фальшывых дакументах выпісвалі быццам бы для дзяцей вострадэфіцытныя лякарствы і прадукты харчавання, а потым прысвойвалі. Гэта нахабны крадзеж, спекуляцыя на самым святым, што ёсць у нашым жыцці, — здароўі, дабрабыце маладога пакалення.

**Мікола ВАСІЛЕЎСКІ,**
**няштатны карэспандэнт «Звязды».**

## Вакол аховы граніц

У Маскве адбылася рабочая сустрэча камандавання пагранічных войск з паўнамоцнымі прадстаўнікамі кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці. Абмеркаваны праекты дакументаў па ахове знешніх граніц і марской эканамічнай зоны дзяржаў Садружнасці, статусе пагранвойск і палажэнне аб іх аб'яднаным камандаванні.

Выказаныя прапановы і заўвагі будуць улічаны пры падрыхтоўцы дакументаў, прызначаных для разгляду Саветам кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці на іх будучай сустрэчы ў Кіеве.

## Рэвалюцыйны трымаем крок, «Товарищ!»

Пад лозунгам «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» выйшаў у свет першы нумар «Товарища» — газеты баранавіцкіх камуністаў.

Яе галоўная мэта, тлумачаць выдаўцы, — данесці да людзей аб'ектыўную інфармацыю аб тым, што зараз адбываецца, бо апошнім часам «са старонак афіцыяльных і іншых газет, па тэлебачанні і радыё выліта столькі неверагоднай ілжы, з іх дапамогай учынена такое ідэалагічнае «прамыванне» мазгоў, што нават самыя «варожыя» замежныя галасы губляюцца на фоне гэтага мэтанакіраванага абалваньвання людзей».

Газета крытыкуе новы ўрад, дзе большасць—былыя партыйныя функцыянеры і біржавікі-спекулянты БНФ, прыхільнікі Гарбачова і многія іншыя.

Жыхары Баранавіч атрымалі магчымасць упершыню за апошнія дзесяцігоддзі прачытаць неафіцыяльную камуністычную газету. Час пакажа, ці павераць яны мясцовым камуністам, ці аддадуць беларусы перавагу «розуму, гонару і сумленню нашай эпохі» яшчэ раз.

**Валянцін МАЛЬКОЎ.**

АКТУАЛЬНА!

# Мільён за кватэру: жарт ці рэальнасць?

**Звыш пяці тысяч рублёў каштуе сёння квадратны метр агульнай жылой плошчы, які «сыходзіць з канвеера» аб'яднання «Гроднажылбуд». Такім чынам, кошт трохпакаёвай кватэры складзе каля 350 тысяч рублёў. Яшчэ некалькі месяцаў назад такія лічбы здаліся б неверагоднымі. Цяпер яны сталі рэальнасцю — жорсткай, шакіруючай. Але адкуль жа ўзяліся гэтыя лічбы і наколькі яны эканамічна абгрунтаваныя? З такога пытання пачалася гутарка карэспандэнта «Звязды» з намеснікам начальніка аб'яднання «Гроднажылбуд» А. СУРНІНЫМ.**

— Паверце, што гэтыя лічбы не ўзяліся са столі, — адказвае Валерый Андрэевіч. — А наконт іх эканамічнай абгрунтаванасці мяркуйце самі. Калі зарплата павялічылася ў 2,5 раза, дык кошт транспартных паслуг — у 9, электраэнергіі — у 4, драўніны — у 10, цэменту —у 17 разоў. Тона металу раней каштавала 400—500 рублёў, цяпер — у сярэднім 9 тысяч, а тона дроту — 18 тысяч рублёў. Але рэкорд устанавілі вытворцы полістыролавага бісеру, з якога вырабляецца уцяпляльнік, — цана на гэтую прадукцыю падскочыла ў... 150 разоў.

І гэта яшчэ, як кажуць, кветачкі. Вось чаму квадратны метр агульнай жылой плошчы цяпер каштуе звыш пяці тысяч рублёў. Прычым гэта лічба не канчатковая. Справа ў тым, што сёння ў нас няма дагавораў на пастаўку большасці матэрыялаў. А паколькі і далей будуць «адпускацца» цэны на сыравіну, нас хутчэй за ўсё таксама чакае іх чарговы скачок. І тады, магчыма, кватэра будзе каштаваць не 300 тысяч, а мільён.

**— Не трэба і казаць, як гэтыя лічбы «ашчаслівілі» людзей, якія спадзяваліся атрымаць дзяржаўную кватэру. Бо цяпер, кажуць, дзяржаўнага (інакш — бясплатнага) жылля ўвогуле не будзе, бо за ўсё трэба плаціць. Але ці многім сёння па кішэні такія кватэры?**

— Сапраўды, малаверагодна, што такое паняцце, як дзяржаўная кватэра, будзе існаваць і далей. Ужо сёлета, напрыклад, мы ў аб'яднанні адмовіліся ад будаўніцтва ўласнага (напрамую ад прыбытку) жылля і займаемся толькі кааператыўным. Прычым будуем толькі сорак кватэр. Але і тут праблема: хто ў стане заплаціць 100 тысяч рублёў у якасці першага 30-працэнтнага ўзносу за кааператыўную кватэру? Пакуль што прадпрыемства бярэ гэтыя выдаткі на сябе. Аднак ці надоўга нас хопіць — не ведаю. Справа ў тым, што фінансавае становішча аб'яднання вельмі складанае — мы на асобым рэжыме крэдытавання з боку банка. Наколькі ведаю, і многія іншыя прадпрыемствы неплацежаздольныя, а значыць, яны таксама не змогуць заказаць для сябе такое дарагое жыллё.

Дарэчы, мясцовыя ўлады сёлета жылля аб'яднанню заказалі нямала — вышэй нашай магутнасці. Але як гэтыя заказы будуць забяспечаны фінансава, адкуль возьмуцца патрэбныя ўжо не мільёны, а мільярды — ніхто не ведае. Упраўленне капбудаўніцтва аблвыканкома з намі не разлічылася нават за снежань мінулага і студзень сёлетняга года.

Пастаўкі матэрыялаў нашаму аб'яднанню практычна спынены, вытворчасць знізілася прыкладна на трэць у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года. Вось яны, першыя вынікі рэформы.

**— Аднак калі цана ўзрастае ў 100—200 разоў — гэта што? Сапраўдная лібералізацыя ці эканамічны бандытызм?**

— Возьмем той жа бісер, цану на які прадпрыемства з Горлаўкі (Украіна) павялічыла ў 150 разоў. Такіх заводаў на ўвесь былы СССР толькі два ці тры, вось і дыктуюць манапалісты што хочуць. Пытаемся ў іх: «Чым эканамічна абгрунтавана такое ашаламляльнае павышэнне цаны на вашу прадукцыю?» Адказваюць, што, за мяжой, маўляў, за тону бісеру даюць тысячу долараў, перавядзіце іх у рублі і атрымаеце тое, што і ёсць. Вось як усё проста. Аднак, калі кіравацца такой логікай, дык за абед коштам, скажам, 50 рублёў, на Захадзе плацяць далёка не 60 цэнтаў, а значна больш. Ці не зніжаем мы штучна рэальную вартасць рубля ў адносінах да долара?

Падкрэслю галоўнае. Як раней, так асабліва і сёння, ва ўмовах лібералізацыі цэн, нельга адмаўляцца ад дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да жыллёвага будаўніцтва. Аднак на практыцы дзяржава, якая абяцала забяспечыць рэгулюемы пераход да рынку, ад гэтага кантролю ўхілілася. Значна больш прэстыжна, відаць, дзяліць армію, флот...

Цяпер, хаця б на першым часе, проста неабходна ў рамках Садружнасці Незалежных Дзяржаў увесці абмежаванне рэнтабельнасці прадпрыемстваў. Аб гэтым зараз шмат гаворыцца, аднак апошнія сустрэчы кіраўнікоў краін — членаў Садружнасці, мяркуючы па ўсім, праблему не вырашылі. Манапалісты працягваюць дыктаваць сваю волю, і разам з тым усё больш нерэальнай становіцца для многіх надзея атрымаць кватэру.

**Гутарку вёў Б. ПРАКОПЧЫК.**

